7 красавіка 1999 г. серада

# НАВІНЫ

№38 (569) кошт свабодны




# ДУША ПАД БЕЛЫМІ КРЫЛАМІ

**Учора раніцай прыйшла трагічная вестка. На 50-ым годзе жыцця памёр намеснік старшыні Вярхоўнага Савета, вядомы палітык Генадзь Карпенка. Інсульт «зваліў» Генадзя Дзмітрыевіча 31 сакавіка, і ўвесь тыдзень ён змагаўся са смерцю ў палаце рэанімацыі 9-й гарадской бальніцы. Смерць, на жаль, аказалася мацнейшай.**

Генадзь Карпенка нарадзіўся ў Мінску 17 верасня 1949 года. Потым, як звычайна, была школа і Беларускі політэхнічны інстытут. У студэнцкія гады сустрэў Генадзь Карпенка і дзяўчыну Людмілу, якая стала яго жонкай і з якой яны выгадавалі сына і дачку.

У савецкія часы Карпенка цалкам прысвячаў сябе навуцы. Спачатку ў інстытуце ядзернай энергетыкі, потым на пасадзе дырэктара маладзечанскага завода парашковай металургіі. Паспяхова абараніў кандыдацкую і доктарскую дысертацыі. Калегі-навукоўцы здзіўляліся надзвычайнай працаздольнасці гэтага чалавека. Генадзь Карпенка стаў аўтарам 50 вынаходстваў, прычым яго навуковыя распрацоўкі прымяняюцца сёння ў 15 краінах свету. Таму не дзіўна, што Генадзь Дзмітрыевіч у той час атрымаў многія высокія ўзнагароды, стаў лаўрэатам Дзяржаўнай прэміі, а таксама членам-карэспандэнтам Акадэміі навук Беларусі.

Было ў Карпенкі, акрамя навукі, яшчэ адно захапленне — футбол, у якім ён разбіраўся настолькі дасканала, што нават судзіў матчы чэмпіянатаў краіны. Дарэчы, гэтае футбольнае захапленне потым, у Карпенкі-палітыка, вельмі раздражняла аднаго беларускага ўсенароднаабранага «спартсмена».

У часы «перабудовы» Генадзь Дзмітрыевіч апынуўся ў самым віры грамадскага і палітычнага жыцця Беларусі. У 1990 г. яго абіраюць дэпутатам Вярхоўнага Савета, а потым і членам прэзідыума парламента. Але парламенцкая трыбуна ў той час была не самым лепшым месцам прымянення талентаў Карпенкі. Яму хацелася займацца нейкай рэальнай справай, бо было шчырае жаданне змяніць жыццё людзей да лепшага. Таму ў 1991 г. ён прыняў прапанову тагачаснага беларускага прэм'ера Вячаслава Кебіча стаць мэрам Маладзечна. І сапраўды, справы ў Карпенкі пайшлі ўгору. Ён паспрабаваў зрабіць у асобна ўзятым беларускім горадзе свабодную эканамічную зону. 1 гэты праект Генадзя Карпенкі даў пэўны плён. У Маладзечне пачалі рэгістравацца многія новастворыныя банкі і фірмы, якія ўносілі ў гарадскі бюджэт немалыя сумы. Грошы ішлі як на гарадскія патрэбы, так і на арганізацыю футбольных матчаў, канцэртаў і іншых відовішчаў, але асаблівым гонарам Карпенкі стаў штогадовы песенны фестываль, які пачалі праводзіць у Маладзечне. За гэты праект хто жартам, а хто скептычна пачаў называць Генадзя Дзмітрыевіча «мэрам сонечнага горада», тым не менш Карпенка ім вельмі ганарыўся.

У 1994 г. пачалася прэзідэнцкая выбарчая кампанія, і Генадзь Карпенка таксама вырашыў паспрабаваць свае сілы. Але тут яго чакала сур'ёзнае расчараванне. Людзі, якіх ён лічыў сваімі паплечнікамі, павялі сябе вельмі непрыстойна, і ў выніку Карпенка кандыдатам у прэзідэнты зарэгістраваны не быў. Знешне ён не паказваў свайго расчаравання, хоць і моцна перажываў. Праз год быў абраны ў Вярхоўны Савет 13-га скліканння, дзе стаў віцэ-спікерам. У Аб'яднанай грамадзянскай партыі ён быў намеснікам старшыні. На той час Карпенка ўжо пакінуў пасаду мэра Маладзечна, бо Лукашэнка не жадаў бачыць у кіраўніцтве горада свайго палітычнага апанента.



Своеасаблівым момантам ісціны для Карпенкі, як зрэшты і для многіх іншых апазіцыйных палітыкаў, сталі перадрэферэндумныя дні восені 96-га. Карпенка той экзамен, у адрозненне ад некаторых іншых сваіх калегаў, вытрымаў з годнасцю. Безумоўна, і ён рабіў памылкі, недацэньваў ілжывасць і нахабнасць цяперашняй улады, але на здзелку са сваім сумленнем не ішоў ніколі. Многія журналісты, якія ў тыя крызісныя дні знаходзіліся ў парламенце, і цяпер узгадваюць, як Карпенка амаль за шкірку сцягнуў з трыбуны намесніка кіраўніка прэзідэнцкай адміністрацыі Івана Пашкевіча, які ўгаворваў дэпутатаў не пратэставаць супраць улады і аддацца на міласць Лукашэнкі. Але гэта бадай што адзіны выпадак, калі Генадзь Дзмітрыевіч адкрыта дэманстраваў на публіцы свае эмоцыі. Звычайна ён заўсёды быў знешне спакойным, ураўнаважаным і вельмі камунікабельным чалавекам. Ён мог гадзінамі абмяркоўваць з калегамі розныя палітычныя ці іншыя праблемы і пры гэтым не выдаваць сваіх эмоцыяў. Многія журналісты за вочы ласкава называлі яго «карпам», і ён абсалютна адпавядаў гэтай жартоўнай мянушцы. Знешне заўсёды павольны, Карпенка даваў свае каментары і ацэнкі падзеяў разважліва, быццам бы ўзважваў кожную фразу. Пры гэтым Генадзь Карпенка меў вострым позірк на рэчы і калі ён надаваў каму-небудзь мянушку, то яна заставалася з чалавекам надоўга.

«Мы павінны зрабіць перамены ў інтарэсах людзей, паказаць кожнаму, што можна жыць лепей, як жывуць многія цывілізаваныя краіны», — часта гаварыў Генадзь Карпенка. Таму нават пасля жорсткіх паразаў дэмакратаў на лукашэнкаўскіх рэферэндумах Карпенка не апускаў рук і рабіў усё дзеля аб'яднання апазіцыі. Прычым працаваў аднолькава шчыра і на пасадзе старшыні створанага год таму «ценявога ўрада» — Нацыянальнага выканаўчага камітэта, і ў Вярхоўным Савеце, і падчас вулічных маніфестацыяў апазіцыі. Гэтая праца была далёка не ўдзячная. І справа не ў тым, што на Карпенку ўлады цэбрамі вылівалі бруд у падкантрольных СМІ, гэта ён бы перажыў. Вельмі часта знаходзіліся зайздроснікі сярод сваіх, маўляў, Карпенка рвецца да ўлады, ату яго. Апошнім часам ён вельмі перажываў, што некаторыя былыя паплечнікі пакінулі яго, перакінуліся да больш удачлівых канкурэнтаў з Масквы. Ну што ж, няхай гэта застаецца на іх сумленні, тым больш, што сам Карпенка на іх зла не трымаў. Прыгадваецца апошняе інтэрв'ю з Генадзем Дзмітрыевічам, якое ён даў газеце на нядаўнім з'ездзе АГП. На пытанне «Што вы збіраецеся рабіць цяпер, калі частка вашай каманды вас пакінула?» Карпенка з уласцівай яму усмешкай адказаў: «Працаваць, як працаваў усе папярэднія гады, а людзі і час нас рассудзяць». У яго было вельмі шмат планаў і праектаў на будучыню, задумаў аб уладкаванні Беларусі пасля дыктатуры. Аднак рэалізаваць іх ён, на жаль, не паспеў.

***Рэдакцыя НАВІНАЎ смуткуе ў сувязі з заўчаснай смерцю Генадзя Карпенкі і выказвае свае глыбокія спачуванні родным, сваякам, усім сябрам нябожчыка. Пахаванне адбудзецца 8 красавіка. Пра час і месца паніхіды можна даведацца ў штаб-кватэры АГП па тэлефоне 227-27-48, 227-29-12***

# Позиция ОБСЕ подходит Лукашенко, но не подходит оппозиции

**Алесь ДАЩИНСКИЙ**

**Парламентская ассамблея ОБСЕ еще не определила своего отношения к предстоящим президентским выборам, которые назначены на 16 мая. Об этом заявил в Минске председатель парламентской группы ОБСЕ по Беларуси, бывший министр иностранных дел Румынии Адриан Северин.**

Известно, что Парламентская ассамблея ОБСЕ признает Верховный Совет 13-го созыва легитимным парламентом Беларуси. Одновременно эта организация поддерживает официальные отношения с находящимся у власти правительством. Анализируя заявление заместителя руководителя КНГ ОБСЕ в Минске Ханса-Петера Кляйнера, становится понятно, что у международного сообщества изменится отношение к президенту Лукашенко по истечении его пятилетнего срока правления по Конституции 94 года. Однако, с ним будут считаться, пока власти контролируют территорию государства. Случайность это или нет, но заявление господина Кляйнера практически совпало с арестом кандидата в президенты Михаила Чигиря. Правящий режим «адекватно» реагирует на слабость или неопределенность позиции влиятельных европейских структур. Адриан Северин назвал высказывания господина Кляйнера «довольно теоретическим заявлением и попыткой объяснить некоторые ведущие принципы, которые лежат в основе международных отношений». Однак, подчеркнул председатель парламентской рабочей группы по Беларуси, «из правил есть исключения». Он сказал, что официальное заявление ОБСЕ насчет предстоящих президентских выборов будет сделано «в должное время». Северин планирует вместе с другими членами парламентской группы по Беларуси приехать в Минск в мае на президентские выборы. Однако миссия будет носить политический характер. Эксперты надеются на достижение политического диалога между властями и оппозицией. По словам Вика, ОБСЕ возмущает политическое разделение в стране, путь подавления и запугивания вместо конструктивных шагов для политического решения ситуации, так как меры подавления могут отложить, но не заменить переговоры. Миссия ОБСЕ в Минске ратует за переговоры, Лукашенко же со своей стороны заинтересован выиграть время, пока некоторые эксперты углубляются в теоретические рассуждения. ■

## Гарачая лінія

### Успышка трыхінелёзу

**У Быхаўскім раёне Магілёўскай вобласці зафіксаваная ўспышка захворванняў на трыхінелёз.**

За сакавік у раёне захварэла 17 чалавек. З іх чацвёра дзяцей. Некаторыя знаходзяцца ў цяжкім стане, хвароба дала ўскладненні. Падобнага выбуху смяротнанебяспечнай заразы ў раёне не памятаюць ужо больш за 10 гадоў. Як лічаць спецыялісты, прычына ў спажыванні хатняй свініны, якую не праверылі ў ветэрынара. Звычайна, людзі правяраюць тое мяса, якое яны напалявалі. А хатняе лічаць «здаровым» апрыоры. Апошні выпадак магчыма вымусіць сялян змяніць сваю пазіцыю.

*Сымон ГЛАЗШТЭЙН*

### Дрэнная навіна для прадпрымальнікаў

**Гарадскія ўлады Мінска прызначылі на 17 і 27 красавіка агульнагарадскі суботнік.**

Суботнік пройдзе ў рамках месячніка па добраўпарадкаванні сталіцы пасля зімы.

Падобныя мерапрыемствы праводзіліся і раней. Горш за ўсіх прыходзілася прадпрымальнікам, якіх гарадскія і раеннёвыя ўлады ў скрытай форме прымушалі пералічваць у свае фонды немалыя грошы ў залік суботніка.

### Долар будзе расці

**Напачатку гэтага тыдня істотна ўзрос пазабіржавы курс долара ў дачыненні да безнаяўнага беларускага рубля.**

Цяпер «рабочы» курс на фірмах вагаецца ад 420 да 460 тысяч рублёў.

Скачок склаў не менш за 50 тысяч рублёў. Тым часам, на «чорным рынку» наяўнай валюты курс долара яшчэ не паспеў змяніцца — учора з раніцы «валютчыкі» куплялі долары па 345-350 тысяч рублёў, прадавалі па 355-360 тысяч. Па ацэнках нашых экспертаў, у бліжэйшы час «чорны» курс долара будзе таксама расці, таму мы не раім сваім чытачам спяшацца абменьваць долары цяпер — праз пару дзён курс вырасце. А вось афіцыйны курс беларускага рубля амаль не змяняецца — з учарашняга дня курс установлены на ўзроўні 239 тысяч рублёў за долар.

*Расціслаў ПЕРМЯКОЎ*

### На четверг намечено «телешоу»

В четверг, 8 апреля, президент Беларуси Александр Лукашенко намерен провести селекторное совещание с главами администраций по вопросам весеннего сева. Практика подобных мероприятий прошлых лет подсказывает, что в этот день на БТ развернется нешуточное телешоу. Меньше всех рады этому событию вертикальщики, которые на это время окажутся в роли «мальчиков для битья».

# Ці той бандыт, хто ўзяў крэдыт?

## У падтрымку бізнесменаў, вінаватых банкам грошы

Алег ГРУЗДЗІЛОВІЧ

**Першыя дні красавіка сталі занадта «гарачымі» для беларускага бізнесу. Па краіне пракацілася хваля арыштаў бізнесменаў і банкіраў, якіх абвінавачваюць у раскраданні крэдытаў. Між тым, мяркуючы нават па афіцыйнай інфармацыі, улады яўна перабольшваюць памеры небяспекі. Уражанне такое, што кіраўніцтву краіны патрэбен пэўны фон, на якім па-асобаму будзе выглядаць любы чалавек, пра якога ўлада скажа: «Ён меў дачыненне да крэдытаў».**

### «Чачэнскі» варыянт

Нагадаем: прэзідэнт А.Лукашэнка на адной з апошніх нарадаў з сілавікамі казаў пра 500 мільёнаў долараў, скрадзеных шляхам невяртання крэдытаў. «Гэта колькі б лекаў мы маглі купіць!» — звярнуўся прэзідэнт да свайго электарата. Пасля гэтай ключавой фразы рука не падымецца праверыць лічбы. Між тым, нават тыя лічбы, якія дае міністэрства ўнутраных справаў у друк, значна адрозніваюцца ад сказанага прэзідэнтам. Згодна з міліцыянтамі, яны разглядаюць справы па стратах удвая меншых. Незалежныя эксперты вызначаюць памер нявернутых крэдытаў у 50—100 мільёнаў, не болей. Прычым спецыялісты лічаць, што большасць гэтых грошай магчыма атрымаць назад, усё залежыць ад метадаў, якімі будзе карыстацца дзяржава. Што прапануе прэзідэнт? Ён лічыць, што з вінаватым грошы бізнесменам трэба абыходзіцца, як з тым палонным з Чачні. «Пасадзіць яго ў ізалятар, даць у рукі сотавы тэлефон і хай сядзіць, пакуль грошы не знойдуцца», — рэкамендуе Лукашэнка.

На думку незалежных экспертаў, такі метад выцягвання долараў з закладнікаў дасць часовы эфект. Большасць заёмшчыкаў разбяжыцца хто куды, а з тых, хто ўжо сядзіць за кратамі, многа не возьмеш. Частка крэдытаў не вяртаецца ва ўсім свеце. І гэта здараецца не толькі з прыватнымі асобамі, але і з цэлымі краінамі. Тая ж Расія не можа сплаціць старыя крэдыты, з-за чаго пазычае новыя грошы. У сваю чаргу Беларусь вінаватая Расіі сотні мільёнаў долараў, аднак з-за гэтага нашага прэзідэнта ніхто ў яму з сотавым тэлефонам не садзіць. У цывілізаваным свеце прынята працаваць з даўжнікамі цывілізавана, і за наручнікі хапацца толькі ў выпадку, калі даказана сапраўднае злачынства. Але як гэта высветліць?

### Прэзумпцыя вінаватасці

Уражанне, што ў нас фактычна ўсіх, хто браў крэдыт і не здольны аддаць, запісваюць у злачынцы. Прафесія бізнесмена ці банкіра стала самай рызыкоўнай — гэтых арыштоўваюць праз аднаго. Асабліва, калі наверсе пачынаецца чарговая кампанія барацьбы з чым-небудзь.

Зараз абвешчана змаганне з неплацельшчыкамі крэдытаў. Міністэрства ўнутраных справаў ужо рапартуе, што «барацьба актывізаваная» і ў якасці доказу сыпле лічбамі: 10 чалавек арыштаваныя, 18 знаходзяцца ў вышуку, з іх 8 уцяклі ў далёкае замежжа... Сярод арыштаваных людзі рознага калібру — былы прэм'ер М.Чыгір, былая кіраўніца «Беларускага народнага банка» Е.Конева і менш вядомыя асобы. Дырэктары фірмаў Е.Пак, С.Паўлаў, С.Бертгольц, А.Калечыц, В.Раманенкаў ды іншыя. Па версіі следчых, іх аб'ядноўвае менавіта невяртанне крэдытаў. Між тым, у некаторых такое абвінавачванне надаецца штучным. Так, былы кіраўнік «Белаграпрамбанка» Міхаіл Чыгір падазраецца ў крадзяжы(!) мільёна долараў са свайго ж банка такім дзіўным спосабам, як дамова з канадскай фірмай на пабудову новага офіса.

Крэдыту ў гэтай гісторыі ўвогуле не было. Наколькі вядома НАВІНАМ, канадцы зрабілі праект офіса і ўсю сметную дакументацыю. За што і атрымалі грошы ў адпаведнасці з дамовай, а болей банк нічога не пералічваў, і супрацоўніцтва замарозілася. Усё гэта адбылося ўжо пасля таго, як М.Чыгір сышоў з банка. Хто вінаваты ў зрыве дамовы і грашовых стратах, следства нават не высвятляла, між тым, былога прэм'ера ўжо кінулі за краты.

Другі прыклад з «чорнага спісу», які быў абвешчаны міністэрствам унутраных справаў на мінулым тыдні — прадпрымальнік з Маладзечна А.Жукоўскі. Пра яго паведамілі, што ён арыштаваны, бо «да цяперашняга часу не вярнуў крэдыт у 42 тысячы долараў». Але ў дадатку да гэтай інфармацыі знаходзіліся іншыя звесткі: «узятыя па падробленых дакументах грошы А.Жукоўскі вярнуў з працэнтамі». Але тады за што канкрэтна пераследуецца бізнесмен? За невяртанне крэдыту, ці за фальшывы подпіс? І ўвогуле ці не можа атрымацца, што ў паперах на атрыманне крэдыту знайшлі нейкую памылку, якую зараз трактуюць як «фальсіфікацыю». ■



Учора ў бізнесе, сёння ў робе

**НАВІНЫ прапануюць (!)**

Падазраем, падобных несупадзенняў у гісторыях з крэдытамі можа быць шмат, а зрэшты за кожнай з іх — лёсы людзей. Мы хацелі б больш ведаць пра гэтых людзей і іх праблемы. НАВІНЫ не збіраюцца перашкаджаць следчым, якія вядуць справы па крэдытах, выконваць свае службовыя абавязкі, аднак, мяркуем, не будзе і грамадству лішнім разабрацца ў гэтых гісторыях.

**Тых, хто мае да іх дачыненне, НАВІНЫ заклікаюць падзяліцца з намі сваімі звесткамі. Мы плануем правесці на старонках газеты сваё расследаванне гучных справаў па так званых «нявернутых крэдытах».** ■

# Кватэры для «патрыётаў»

Канстанцін СКУРАТОВІЧ

**У лістападзе мінулага года Мінгарвыканкам зацвердзіў палажэнне аб уліку і размеркаванні жылля ў Беларускім патрыятычным саюзе моладзі (БПСМ) у горадзе Мінску. Зроблена гэта ў адпаведнасці з указамі Лукашэнкі за № 380 «Аб дзяржаўнай падтрымцы Беларускага патрыятычнага саюза моладзі» і «Аб мерах па паляпшэнні жыллёвых умоваў моладзі», а таксама са статутам БПСМ і, нібыта, з жыллёвым заканадаўствам і Канстытуцыяй РБ. Вось такія справы. У «Палажэнні» ўсё падман, за выключэннем таго, што Лукашэнка і на самой справе загадаў даць «патрыётам» грошы. Іх і даюць.**

Пакольки «патрыётаў» адзінкі, а звычайнай моладзі мільёны, дык на яе, зразумела, сродкаў не хапае, таму крэдытаванне будаўніцтва кватэраў для маладых ідзе марудна, прычым настолькі, што маладыя, якія стаяць у ільготных чэргах, хутчэй займеюць унукаў, чым атрымаюць кватэры. Ну, а што тычыцца Канстытуцыі, дык спасылка на яе даўно зрабілася рытуалам, ёю апраўдваюць любое беззаконне. Канстытуцыя павінна гарантаваць правы на жыллё кожнаму грамадзяніну, а не служыць «мэце прывабленя несаюзнай моладзі ў шэрагі БПСМ».

За кватэру і раней, і цяпер многія гатовы і чалавека забіць, а тут такая спакуса: запішыся ў «патрыёты» і атрымлівай ордэр! Аднак не спяшайцеся. Усё, канечне, проста, але ж не настолькі. Бо ў першую чаргу кватэры атрымаюць тыя «члены», што маюць дыплом ЦК БПСМ I ступені, за імі пойдуць «члены-функцыянеры» (што пры пасадах), у трэцюю чаргу — пераможцы ў розных патрыятычных спаборніцтвах. Ну, а шараговым «патрыётам» прыйдзецца займаць месца ў чарзе ў адпаведнасці з нумарам членскага білета. Такая практыка ўжо дзейнічае. Напрыклад, у снежні 1997 г. сакратар ЦК БПСМ М.Арда, які жыў у Віцебску і быў прапісаны ў інтэрнаце, па хадайніцтву Івана Ціцянкова перад Аляксандрам Лукашэнкам быў паселены і прапісаны ў інтэрнаце БДУ. Разам з ім такім чынам палепшыў жыллёвыя ўмовы яшчэ адзін сакратар ЦК БПСМ, Ю. Салаўёў, які разам з жонкай і сынам заняў асобны пакой у тым жа інтэрнаце..



Першы сакратар ЦК БПСМ **Усевалад ЯНЧЭЎСКІ**

У гэтым, скажуць, ніякай асаблівай крамолы няма, пакоі ў інтэрнаце выдзяляліся як службовае жыллё, ды і трэба ж недзе жыць, будзь ты «патрыёт» ці не. Але дабрыня да «патрыётаў» з боку шэфа прэзідэнцкай адміністрацыі межаў не мае. Таму ён у хадайніцтве просіць Лукашэнку даць даручэнне Мінгарвыканкаму разгледзець пытанне аб уключэнні работнікаў ЦК БПСМ у маладзёжны жыллёва-будаўнічы кааператыў.

Да хадайніцтва паставіліся ўважліва, выканкам распрацаваў для «патрыётаў» асобы парадак уліку і размеркавання жылля. Цяпер тым з іх, якія праявяць асобы пыл у справе патрыятычнага выхавання моладзі, будзе дазволена ўступаць у маладзёжныя жыллёва-будаўнічыя кааператывы (МЖБК), што дазволіць хутка вырашыць жыллёвае пытанне за казённы кошт. Чаму за казённы? А таму, што асноўная крыніца фінансавання МЖБК — бюджэт, а пагашэнне крэдыту адносіцца на далёкую перспектыву. Да таго часу можа і рэжым памяняецца ці патрэба ў БПСМ адпадзе, але ж кватэры ў цяперашніх «патрыётаў» застануцца.

Гэта яны вельмі добра разумеюць. Таму першым рашэннем бюро ЦК БПСМ, прынятым 9 верасня мінулага года, першаму сакратару У. Янчэўскаму на дваіх з жонкай выдзеленая двухпакаёўка, другому сакратару М. Ардзе, сакратару Салаўёву — па аднапакаёвай (халастыя-нежанатыя, будзе куды сяброўак запрашаць), а сакратару В. Шпакоўскаму — трохпакаёвая (па адным пакоі на члена сям'і).

Вось так. Канстытуцыя гарантуе ўсім, а даюць «лепшым». Фактычна, кожны атрымаў па 10 і болей тысяч долараў. Каб простаму чалавеку зарабіць такую суму на жыллё, трэба збіраць грошы 15—20 гадоў, прычым не піць і не есці. А гэтым не трэба ні чакаць, ні працаваць. Навошта, калі наўкол столькі дурняў. ■

ДЫЯСПАРА

# Сярод беларусаў Расіі таксама ёсць апазіцыя

Ганна ШЫМЕЛЕВІЧ

Па паведамленнях прэсы, прадстаўнікі беларусаў, што жывуць у Расіі, правялі ў Маскве свой з'езд, прымеркаваны да трэцяй гадавіны аб'яднання Беларусі і Расіі. Там была створаная адмысловая арганізацыя расійскіх беларусаў — федэратыўная нацыянальна-культурная аўтаномія беларусаў Расіі. Аднак, як нам стала вядома, гэта быў ужо не першы «ўстаноўчы» з'езд, расійскія беларусы збіраліся некалькі тыдняў таму і таксама стварылі арганізацыю — Міжрэгіянальнае аб'яднанне беларусаў Расіі. Такі дзіўны збег акалічнасцяў тлумачыцца расколам на «апазіцыйных» і «афіцыйных», які закрануў нашых расійскіх землякоў.

З канца 1980-х гадоў у Расіі дзейнічала 14 беларускіх суполак (так сведчыць афіцыйная статыстыка). Гэта пераважна гістарычна-культурныя таварыствы — у Маскве і Санкт-Пецярбургу, у Іркуцку, Краснаярску і іншых буйных гарадах Расіі. Суполкі падтрымлівалі сувязі паміж сабою, сустракаліся ў Мінску на мерапрыемствах Згуртавання беларусаў свету «Бацькаўшчына» і ў цэлым не збіраліся аб'ядноўвацца. І раптам на пачатку мінулага года ў Мінску вырашылі, што расійскіх беларусаў трэба арганізаваць. У лютым 1998-га актывістаў запрасілі ў беларускую сталіцу і прапанавалі згуртавацца, тлумачачы просьбу неабходнасцю «адлюстравання дыяспарай адзінага падыходу да падзеяў у Беларусі і асабістай ролі прэзідэнта Лукашэнкі». Аднак такая перспектыва не прыйшлася даспадобы расійскім беларусам. Прысутны на сустрэчы лідэр Маскоўскага таварыства беларускай культуры імя Скарыны Генадзь Лех рашуча заявіў, што дзеля такіх мэтаў аб'ядноўвацца нельга, і паабяцаў правесці ў Расіі альтэрнатыўны аб'ядноўчы з'езд. Тады масквічы фактычна сарвалі афіцыйнае мерапрыемства.

Як кажа сп.Лех, з пачатку гэтага года ў Расіі пачаліся дзіўныя рэчы — колькасць беларускіх суполак расце, як грыбы пасля дажджу. У канцы студзеня міністэрствам нацыянальнасцяў было зарэгістравана ўжо 28 беларускіх арганізацыяў, а ў лютым іх стала 41. Толькі ў Пецярбургу цяпер 4 таварыствы беларусаў. У Маскве ж іх раптам стала ажно сем. Сябры Маскоўскага таварыства імя Скарыны спрабавалі знайсці гэтых невядомых землякоў, аднак гэта няпроста. Не заўсёды па месцы рэгістрацыі, у якім-небудзь «спортивно-оздоровительном клубе «Славяне» ведаюць пра існаванне ў іх беларускай суполкі. Па інфармацыі сп.Леха, многія з нядаўна ўтвораных аб'яднанняў — гэта «белорусские землячества», дзе раскручваецца нейкі бізнес і часцяком запраўляюць ветэраны-«афганцы». Ёсць і ўвогуле «клубы падтрымкі Аляксандра Лукашэнкі». Вось гэтых новаспечаных «беларусаў Расіі» збіраюцца згуртаваць дзеля славы Лукашэнкі і ў гонар 3-годдзя Саюза Беларусі і Расіі нашая амбасада ў Маскве (арганізатар з'езда) і беларускае міністэрства замежных справаў (за кошт якога ўсё фінансуецца).

А альтэрнатыўны з'езд, між тым, ужо адбыўся. Ён прайшоў у Маскве 27 сакавіка і ўтварыў Міжрэгіянальнае аб'яднанне беларусаў Расіі. Міжрэгіянальнае аб'яднанне беларусаў Расіі падтрымлівае незалежнасць, беларускую дзяржаўнасць як інструмент адраджэння мовы і культуры. ■



**Збигнев Бжезинский — авторитетный американский ученый и политический деятель. В 80-е годы он выступал с резкой критикой СССР, развязавшего войну в Афганистане, ему принадлежит определение СССР как «империи зла», а также сбывшееся пророчество, что афганская война станет для этой «империи» роковой. Публикуемые редакцией разделы из книги «Большая шахматная игра» посвящены проблемам российской геополитики в отношении стран «ближнего зарубежья», в том числе и Беларуси.**

Збигнев БЖЕЗИНСКИЙ

# Черная дыра

*(Продолжение. Начало в № 37)*

Внутренний кризис и утрата позиций на международной арене стали причиной не только болезненных переживаний, особенно российской политической элиты, но и ухудшения геополитической ситуации в России. После распада Советского Союза западные границы России подверглись исключительно неприятным изменениям, а территория ее геополитического влияния драматическим образом сжалась.

Россия управляла прибалтийскими государствами еще в XVIII в., и потеря Риги и Таллинна ограничила ее доступ к Балтийскому морю, вынуждая ее использовать порты, замерзающие зимой. Хотя Москва и смогла сохранить доминирующую политическую роль в Беларуси, формально независимой, но в значительной степени русифицированной, здесь тоже нет уверенности, что распространяющаяся эпидемия национализма не восторжествует в ближайшем будущем и в этой стране. А за границами бывшего Советского Союза после распада Варшавского договора бывшие государства-сателлиты Центральной Европы, и прежде всего Польша, в ускоренном темпе начали тяготеть к NATO и Европейскому союзу.

Наиболее болезненной была потеря Украины. Появление суверенного украинского государства не только вынудило россиян опять задаться вопросом, кем же является Россия с точки зрения политической и этнической, но явилось также большим геополитическим поражением российского государства. Отказ Украины от российского имперского господства, которое существовало более чем 300 лет, практически означал потерю контроля над потенциально богатым промышленным и сельскохозяйственным регионом с 52-миллионным населением, достаточно близким россиянам по религиозным и национальным признакам, способным сделать российское государство действительно сильным и влиятельным. Независимость Украины стала причиной утраты Россией позиций на Черном море, вместе с Одессой, ключевым портом, позволявшим вести торговлю со странами средиземноморского бассейна и остальными странами мира.

Потеря Украины имела также существенные геополитические последствия, поскольку весьма ограничила геостратегические возможности России. Даже без прибалтийских государств и Польши, только сохраняя контроль над Украиной, Россия могла бы, как и прежде, претендовать на роль предводителя экспансионистской евроазиатской империи, в которой управляла бы неславянскими народами в южной и юго-восточной части бывшего Советского Союза. Но без Украины и ее 52 миллионов братьев-славян всякие попытки восстановления евроазиатской империи безусловно втянули бы Москву в длительные конфликты с неславянским населением, разбуженным религиозно и национально; война в Чечне была только первой ласточкой. Кроме этого, если принять во внимание снижение прироста населения в России и демографический взрыв в Средней Азии, без участия Украины любой новый евроазиатский политический организм, основанный только на силе России, с каждым годом становился бы все меньше европейским, а больше азиатским.

Потеря Украины сыграла не только прямую геополитическую роль, но и стала катализатором перемен в геополитическом равновесии сил. Действия Украины — объявление независимости в декабре 1991 года, настаивание во время критических переговоров в Вискулях на том, чтобы Советский Союз был заменен более свободным Содружеством Независимых Государств, и особенно внезапное, похожее даже на переворот, подчинение себе военных частей, дислоцирующихся на территории Украины, — предотвратили тот факт, при котором СНГ стало бы просто новым, более федеративным, реформированием Советского Союза. Украинское стремление к политической самостоятельности шокировало Россию, по примеру Украины другие советские республики вначале боязливо, а затем все смелее, начали заявлять о своих правах.



Утрата Россией господствующего положения на Черном море, как это раньше случилось на Балтике, произошла не только из-за объявления Украиной своей независимости, но еще и из-за того, что молодые кавказские государства — Грузия, Армения и Азербайджан — позволили Турции вернуть свое утраченное когда-то влияние в этом регионе. До 1991 года Черное море было базой российского военного флота для действий в Средиземном море. В середине 90-х годов Россия контролировала уже только небольшую полоску побережья Черного моря и продолжала вести неразрешимый спор с Украиной о праве на размещение оставшегося Черноморского флота на базах в Крыму, одновременно с нескрываемым раздражением наблюдая за совместными учениями десантников и моряков NATO и Украины, а также за все усиливающейся ролью Турции в районе Черного моря, подозревая ее также в успешном оказании помощи чеченским повстанцам.

Дальше на юго-востоке геополитические потрясения также вызвали существенные изменения ситуации в странах бассейна Каспийского моря и Средней Азии. До развала Советского Союза Каспийское море было фактически советским «озером» с небольшим в южном направлении пространством, контролируемым Ираном. После появления независимого, весьма националистически настроенного, Азербайджана, усиленного западными инвесторами, заинтересованными его нефтью, а также независимых Казахстана и Туркменистана, Россия стала просто одним из пяти претендентов на богатства бассейна Каспийского моря. Она уже не могла пребывать в полной уверенности, что может распоряжаться этим богатством самостоятельно.

Появление независимых государств в Средней Азии означало то, что в некоторых юго-восточных регионах границы России подвинулись более, чем на тысячу миль. Новые государства контролировали теперь огромные запасы энергетических и минеральных ресурсов, которые вызывали живой интерес заграницы. Активно начали пробуждаться национальные чувства и религиозные исламские настроения. В Казахстане, огромной стране, владеющей несметными природными богатствами и насчитывающей только 20 миллионов населения, причем 50% из них составляют казахи, а 50% — славяне, языковые и этнические конфликты могли проявиться весьма отчетливо. Узбекистан, у которого этническая популяция, состоящая из 25-миллионного населения, более однородна и руководители которого не устают подчеркивать славную историю страны, все активнее напоминает о новом постколониальном статусе региона. Туркменистан, отделяемый Казахстаном от непосредственного географического соседства с Россией, укрепляет свои отношения с Ираном, чтобы ослабить свою прежнюю зависимость от российских путей сообщения, позволяющих выйти на мировые рынки.

Вопреки надеждам многих россиян, государства Средней Азии, поддерживаемые Турцией, Ираном, Пакистаном и Саудовской Аравией, не испытывают особого желания отказываться от недавно полученного политического суверенитета даже ценой выгодной экономической интеграции с Россией. Некоторая напряженность и конфликтность в их отношениях с Россией является неизбежной, а события в Чечне и Таджикистане напоминают о том, что нельзя полностью исключить даже худший вариант. Призрак конфликта с исламскими государствами, граничащими с Россией на юге (включая Турцию, Иран и Пакистан с общей численностью населения в 300 миллионов), является для россиян источником серьезного беспокойства.

Наконец, после распада империи Россия очутилась в новой опасной геополитической ситуации на Дальнем Востоке, хотя там и не произошли какие-либо политические или территориальные изменения. На протяжении многих столетий Китай был более слабым и отсталым, чем Россия, особенно в области военно-политической. Ни один россиянин, беспокоящийся за будущее своей страны и озабоченный драматическими переменами последнего десятилетия, не может игнорировать тот факт, что Китай вскоре станет страной более развитой, более динамичной, которая в большей степени, чем Россия, сможет гордиться своими успехами. Экономическая мощь Китая основывается на динамизме его населения, насчитывающего 1 миллиард 200 миллионов, что коренным образом изменяет историческое соотношение между двумя государствами, а пустые просторы Сибири так и напрашиваются на колонизацию Китаем.

Такая сложная ситуация должна составлять угрозу безопасности России на Дальнем Востоке, а также ее интересам в Средней Азии. Уже вскоре она может усугубиться в геополитическом смысле потерей Украины. Стратегические последствия этого хорошо представил Владимир Лукин, первый посткоммунистический посол России в США, а позже председатель комиссии по международным делам в Думе:

«В прошлом Россия считала, что опережает Азию, но остается позади Европы. Однако сегодня Азия развивается значительно быстрее. Мы же находимся не столько между «современной Европой» и «отсталой Азией», сколько, скорее всего, на каком-то удивительном промежуточном месте, между двумя «Европами».

Короче говоря, Россия, еще совсем недавно империя с огромной территорией, предводитель блока идеологически связанных государств-сателлитов, достигающих самого сердца Европы, а в некоторых случаях — Южнокитайского моря, превратилась в национальное государство с серьезными внутренними проблемами, имеющее затруднения с доступом к остальной части мира, обреченное на изнуряющие конфликты с соседями на западе, на востоке и на юге. Безопасными в геополитическом плане являются только незаселенные и недоступные территории Дальнего Севера, которые большую часть года покрыты снегом. ■

*(Продолжение следует)*

# «Акно ў свет»

**На пытанні анкеты, адрасаванай чытачам НАВІНАЎ напрыканцы мінулага года, адказалі 899 чалавек. Адказы прый-шлі з усіх абласных і раённых цэнтраў, з мноства мястэчак і вёсак. Таму апытанне набыло прадстаўнічы характар і адлюстроўвае разнастайную чытацкую думку.**

Людзі, якія чытаюць нашую газету і выказалі свае пажаданні да паляпшэння яе зместу і формы, маюць розны ўзрост. Аналіз чытацкіх анкетаў па гэтым паказчыку дае наступную карціну чытацкай аўдыторыі НАВІНАЎ:

| Узрост | Чытачы (%) |
|---|---|
| 16—25 | 19,3 |
| 26—35 | 18,1 |
| 36—45 | 24,6 |
| 46—55 | 17,2 |
| 56—65 | 13,9 |
| за 66 | 6,9 |

Жанчыны складаюць 21,3 працэнта чытачоў газеты. Аднясенне іх да пэўнай узроставай групы часцяком ускладняецца жаночай звычкай не зважаць на пытанні пра гады. Некаторыя чытачкі на гэты пункт анкеты адказалі — «некарэктнае пытанне», некалькі напісалі «ха-ха!». Але на іншыя пытанні жанчыны адказвалі больш шырока і далі больш каментароў, чым мужчынская частка чытачоў НАВІНАЎ. Каля 60 працэнтаў рэспандэнтаў купляюць газету ў кіёску. Толькі 2 працэнты чытачоў адказалі, што атрыманую імі газету чытаюць аднаасобна, астатнія пазначылі, што на кожны нумар прыходзіцца яшчэ да 4—6 чытачоў (сям'я, суседзі, калегі па працы). Як галоўныя падставы да трывалай увагі да газеты рэспандэнты называюць: 1) газета незалежная ад уладаў, 2) яна ім цікавая, 3) прызвычаіліся яе чытаць.

Чытачы маладога і сярэдняга ўзросту бывалі ці часта бываюць за мяжой і маюць пэўны вопыт для параўнання замежнага жыцця з беларускім. Большасць з іх умее працаваць на камп'ютэрах (мае дома ці мае на працы). Каля 10 працэнтаў чытачоў маюць доступ у Інтэрнэт. Па сацыяльным становішчы амаль усе рэспандэнты адносяць сябе да малазабяспечаных ці сярэднезабяспечаных. Высоказабяспечанымі назвалі сябе 1,2 працэнта рэспандэнтаў, але, як слушна пазначана ў адной анкеце, паказчык забяспечанасці патрабуе эталона для параўнання і ва ўмовах нашай краіны не мае ніякай стабільнасці.

Палітычныя сімпатыі чытацкай аўдыторыі належаць рухам і партыям дэмакратычнага накірунку: БНФ, БСДГ, АГП, Хартыя-97, «Малады Фронт». Апроч НАВІНАЎ, наш чытач рэгулярна ці час ад часу чытае «Нашу Ніву», «Народную Волю», «Пагоню», «Белорусскую деловую газету». Каля 36 працэнтаў чытаюць яшчэ «Аргументы и факты», «Известия», «Комсомольскую правду», «Звязду», «Советскую Белоруссию».

Найбольш складана было падсумаваць меркаванні чытачоў адносна пашырэння тэматыкі публікацыяў, бо тут моцна ўплывае жыццёвы вопыт, розны ўзрост, прафесія, культурныя і палітычныя інтарэсы. Прыкладам, усе чытачы старэйшага ўзросту паказалі ў адказах, што іх не цікавяць матэрыялы пра камп'ютэры ды Інтэрнэт, і наадварот, моладзь аднадушна адзначыла неабходнасць шырокай інфармацыі на гэтыя тэмы.

Амаль 80 працэнтаў рэспандэнтаў адказалі, што ў газеце мала «свецкай хронікі», «інтэрв'ю з вядомымі людзьмі», 62 працэнты лічаць неабходным павялічыць ілюстратыўнасць газеты, 53 працэнты выказалі пажаданне бачыць болей інфармацыі эканамічнага і палітычнага зместу (аналіз, каментарыі, параўнанні). У чытацкіх заўвагах пазначана цікавасць да тэмаў сусветнай аналітыкі, адносінаў да Беларусі заходніх краінаў, партыйных праграмаў, асабліва ў частцы эканамічных рэформаў, эканамічных дыскусіяў, жыцця беларускай дыяспары, асвятлення сучаснага сацыяльнага і эканамічнага становішча ў Польшчы, Літве, Латвіі, Чэхіі, Славакіі. Часта сустракалася прапанова ўвесці рубрыку «Пытанне да прэзідэнта».

Пятая частка рэспандэнтаў прапаноўвае перавесці газету цалкам на беларускую мову, 8,5 працэнта раяць карыстацца выключна тарашкевіцай. Большасць раіць трымаць газету «трохмоўнай» — як пішуць аўтары: па-беларуску наркомаўкай і тарашкевіцай, па-руску.

Некаторыя пытанні выявілі супрацьлеглыя інтарэсы чытачоў. Так, 15,3 працэнта рэспандэнтаў жадаюць бачыць на старонках газеты болей інфармацыі на рэлігійныя тэмы. Аднак 16,1 працэнта выказаліся, што гэтай тэматыкі ў газеце зашмат. Тое ж тычыцца культуры: 24, 8 працэнта жадаюць павялічыць гэты раздзел публікацыяў, 23,1 працэнта трымаюцца думкі, што гэты раздзел трэба скараціць. У такіх спрэчных выпадках рэдакцыя мусіць разлічваць на талерантнасць чытача НАВІНАЎ.

Адзінкава сустракаліся пажаданні, каб газета друкавала матэрыялы пра секс-сімвалы (рубрыка «плэйбой»), наогул пра секс і каханне, творы літаратуры, парады па дачнай гаспадарцы. Усе разам такія чытачы складаюць 0,3 працэнта ад агульнага ліку нашай аўдыторыі.

Шмат заўваг было зроблена па форме газеты (малавыразны загаловак, недахоп рубрыкаў, каментароў). Рэдакцыя ўжо ўлічыла такія пажаданні і спадзяецца атрымаць водгук чытача на новае аблічча газеты.

Рэдакцыя ўдзячная ўсім, хто меў жаданне і знайшоў час пасядзець над анкетай і выказаць свае меркаванні. Мы абавязкова ўлічым у сваёй працы ўсе слушныя заўвагі, сяброўскую крытыку і парады. Бо рэдакцыя жадае, як напісаў адзін з чытачоў, каб газета была «беларускім акном у свет». ■

***Рэдакцыя***



© НАВІНЫ. Спасылка на газету НАВІНЫ абавязковая. Рэдакцыя можа не падзяляць меркаванні аўтараў, публікаваць артыкулы дзеля палемікі. Адрас: г.Мінск, пр-т газеты «Известия», 8-173. Пасведчанне аб рэгістрацыі № 996
Выдаецца з 16 студзеня 1998 г. В.а. галоўнага рэдактара і заснавальнік Павел Жук. Выдавец — рэдакцыя газеты НАВІНЫ. Адрас для карэспандэнцыі: 220034, г. Мінск, вул. З.Бядулі, 6-47. Тэл./факс: 236-89-40.
E-mail: edit@svaboda.minsk.by; naviny@hotmail.com http://www.belarus.net/MassMedia/Newspaper/Svaboda/
Надрукавана на паліграфічнай фабрыцы «Чырвоная зорка» (г.Мінск, 1-шы Загарадны завулак, 3) Заказ 531 Нумар падпісаны ў друк 06/04/99 (15:00) Наклад — 17.180